DISTRICTUS
# ПАВЕТ
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ
№ 6 СНЕЖАНЬ 2007 г.
№1 СТУДЗЕНЬ 2008 г.
(59-60)

# Калядныя ўзоры - 2007

У нумары:



*Паводле добрай традыцыі калядныя і навагоднія святы Браслаўскае музейнае аб'яднанне адкрывае выставай лепшых вырабаў народных майстроў Браслаўшчыны. Чарговая калядная выстава, якая разгорнута ў Музеі традыцыйнай культуры, 13-я па ліку.*

*** Выстаўляецца каля 110 прац 36 майстроў рэгіёна.**
*** Прадстаўлены 3 віды традыцыйных рамёстваў: ткацтва, ганчарства, пляценне і больш за 10 кірункаў дэкаратыўна-ужытковага мастацтва - вышыўка, абрэзкавае шыццё, фларыстыка, габелен, дэкаратыўны лямец, вязанне.**

*** Ва ўсіх калядных выставах удзельнічалі Міхаіл Чэркас, Уладзімір Лук'янец, Валеры і Элеанора Зінкевічы.**
*** Упершыню выставілі свае творы Марына Лысёнак (вышыўка), дарэчы, пераможца конкурсу вышывальшчыц на фестывалі "Браслаўскія зарніцы-2007", Антаніна Раманоўская (вышыванне, вязанне), Вівея Максімовіч (вязанне кручком), чэслаў Юран (пляценне з лучыны).**

*** Упершыню прадстаўлены дэкаратаўныя скульптуры кавалкаў металу (аўтар Аляксандр Малашанка), габелены, зробленыя спалучэннем традыцыйнай тэхнікі ткацтва і элементаў сучаснага дэкору (аўтар Наталля Парахневіч).**
*** Прадстаўлена адна творчая дынастыя Лук'янцаў. Экспануюцца вырабы з лазы Уладзіміра Лук'янца, яго сына Сяргея і ўнука Андрэя.**

Кастусь Шыдлоўскі

# НОВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ ПРА ТАМАША ВАЎЖЭЦКАГА

*Адна з найбольш вядомых гістарычных постацей Браслаўшчыны - Тамаш Ваўжэцкі (1753 - 1816 гг.), дзяржаўны дзеяч, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 года. Род Ваўжэцкіх паходзіць з Польшчы, але Тамаш нарадзіўся ў Відзскім наваколлі, памёр у Відзах-Лаўчынскіх, а пахаваны ў Відзах.*

*Назапашаны значны матэрыял, звязаны з гэтай постаццю. У Польшчы выдадзена некалькі манаграфій, прысвечаных Т.Ваўжэцкаму. Дзве з іх ёсць у распараджэнні Браслаўскага музея. Матэрыялы пра Т.Ваўжэцкага змешчаны ў кнізе "Памяць", выданні "Павет".*

*У гэтым годзе жыхар горада Коньске (Польшча) Анджэй Бучак, які паходзіць з Браслаўшчыны, перадаў для музея некалькі матэрыялаў пра знакамітага браслаўца.*

*Адзін з іх - сёмы нумар гістарычнага сшытка "Ziemia konecka" (1994 г.) з артыкулам Б.Шындлера "Коньске ў час паўстання Касцюшкі". Аўтар - польскі гісторык, прафесар Люблінскага ўніверсітэта. У 1976 г. выйшла яго кніга "Тамаш Ваўжэцкі - апошні начальнік паўстання Касцюшкі (1753 - 1816 гг.)". Горад Коньске размешчаны ў некалькіх сотнях кіламетраў на поўдзень ад Варшавы, на заходняй ускраіне Свентакшыцкіх гор. Менавіта ў гэтым наваколлі разгараўся апошні драматычны акт паўстання.*



**Тамаш Ваўжэцкі.**
***Літаграфія паловы XIX ст.***

* * *

Лістапад 1794 г. Т.Ваўжэцкі - камандуючы паўстанцкімі войскамі. Пасля ўзяцця А.Суворавым Варшавы, паўстанцкія сілы адступілі ў бок Малапольшчы. Кароль Станіслаў Аўгуст, магістрат Варшавы, некаторыя сябры Найвышэйшай Рады былі настроены на капітуляцыю, але Т.Ваўжэцкі не саступіў ім. Разам з польскімі дывізіямі на поўдзень рушыла і літоўская дывізія генерала Гедройца, у якой маглі быць і паўстанцы Браслаўшчыны. Праўда, настрой у гэтай адзінкі быў самы песімістычны. Адарваныя ад сваіх дамоў, далёка ад родных мясцін, паўстанцы-ліцьвіны не бачылі сэнсу ў барацьбе. Дывізія літаральна таяла на вачах, з 3700 чалавек на пачатку маршу засталося каля 300 на момант капітуляцыі. Увогуле, ва ўсім войску панавала апатыя. 13 - 14 лістапада адбылося масавае дэзерцірства. Умовы апошніх дзён паўстання былі вельмі цяжкімі: наступалі халады, не хапала правіянту, не было цёплых памяшканняў, увесь час турбавалі расійскія і прускія войскі. 14 - 15 лістапада асноўныя сілы заначавалі ў Коньскім, а пасля перайшлі ў Радашыцы. У гэтым невялікім драўляным мястэчку пад камандаванне Т.Ваўжэцкага яшчэ налічвалася 6000 чалавек, 39 гармат. Але войска было практычна небаяздольным.

Кароль Станіслаў Аўгуст, які кантактаваў з А.Суворавым, паведамляў паўстанцам аб умовах капітуляцыі. Т.Ваўжэцкі адцягваў час, ён спадзяваўся на лепшыя ўмовы здачы. Аб бітвах ужо не было мовы. Пазіцыі паўстанцаў каля Радашыц 18 лістапада былі атакаваны часцямі генерала А.Дзянісава. Т.Ваўжэцкі з групай генералаў былі вымушаны тэрмінова згаджацца на ўмовы капітуляцыі. Частка генералаў са сваімі часцямі здалася прусакам, ці пайшла ў Галіцыю. Расіяне прынялі зброю ад 2000 паўстанцаў. У другой палове дня 18 лістапада Т.Ваўжэцкі і яшчэ 4 генералы пад канвоем адправіліся ў Варшаву на сустрэчу з А.Суворавым.

У артыкуле не толькі падрабязна апісваюцца апошнія дні паўстання, але і дадаецца багаты ілюстратыўны матэрыял.



**Памятная дошка ў Радашыцах у гонар паўстанцкіх войск пад началам Т.Ваўжэцкага**

* * *

А.Бучак перадаў таксама ксеракопію артыкула Евы Зялкоўскай "Надмагілле Тамаша Ваўжэцкага ў Відзах" з выдання "Przeszlość i pamięc" (№ 1, 1999 г.). Асноўная частка - гэта біяграфічныя звесткі пра Т.Ваўжэцкага, вядомыя з іншых крыніц. Найбольш цікавая інфармацыя пра надмагілле, якое было ўстаноўлена ў 1998 годзе. У гэтым годзе рада польскай грамадскай арганізацыі Аховы памяці змагання і пакутніцтва звярнулася да беларускіх улад, каб устанавіць на магіле паўстанцкага генерала новы помнік. За кошт арганізацыі была выраблена масіўная гранітная пліта з надпісамі па-беларуску і па-польску. Ніжнюю частку ўпрыгожылі сімвалы паўстання, аналагічныя тым, што аздабляюць саркафаг Т.Касцюшкі ў Вавельскай катэдры ў Кракаве. Аўтары помніка - скульптар Марк Мадэраў і архітэктар Яраслаў Скшыпчак.

У артыкуле таксама змешчаны поўны лацінскі тэкст эпітафіі, прысвечанай Т.Ваўжэцкаму, на пліце ў Віленскай катэдры і яго пераклад на польскую мову.

# Уладзімір Арлоў. Імёны Свабоды

Старадаўняй
Літоўскай
Пагоні
не разьбіць,
не спыніць,
не стрымаць!

*Максім*
*Багдановіч*

*У новай кнізе вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Арлова чытач знойдзе і гістарычны партрэт Тамаша Ваўжэцкага. Кніга выйшла ў 2007 г. у серыі "Бібліятэка Свабоды XXI стагоддзя". Яна змяшчае біяграфічныя замалёўкі пра 261 гістарычную асобу Беларусі XVIII - XXI стст. Гэтыя замалёўкі аўтар чытаў у эфіры радыё "Свабода" ад 1-га студзеня 2006 года да 25 сакавіка 2007 года. У прадмове да кнігі Аляксандр Лукашук, дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода, напісаў: "Гэта аўтарская энцыклапедыя любові да Радзімы, волі і незалежнасці. Гэта імёны, якія будуць жыць, пакуль жыве Беларусь. Гэта вянок нашай свабоды.".*

*У вянку славутых герояў Бацькаўшчыны годнае месца займае і Тамаш Ваўжэцкі, які адстойваў ідэалы Свабоды напрыканцы крызіснага для Радзімы XVIII ст.*

*У зборніку "Імёны свабоды" чытач знойдзе партрэты яшчэ двух славутых браслаўцаў: Станіслава Булак-Балаховіча (1883 - 1940 гг.), беларускага вайсковага дзеяча і палітыка; Пётры Сергіевіча (1900 - 1984 гг.), вядомага беларускага мастака. Ёсць матэрыялы пра асоб, якія звязаны з гісторыяй Браслаўшчыны: Эміліі Плятэр, Напалеона Орды, Генрыха Дмахоўскага, Лявона Вітана-Дубейкоўскага, Антона Ляшчэвіча, Андрэя Цікоту, Аляксандра Ружанцова, Казімера Смульку, Часлава Сіповіча.*

*Увазе чытача прапануем гістарычны партрэт Тамаша Ваўжэцкага працы Уладзіміра Арлова.*

* * *



Ня ведаю, ці падлічаная колькасьць выступаў у Вярхоўным Савеце Беларусі Зянона Пазьняка, але дакладна вядома, што за два стагодзьдзі да яго пасол ад шляхты Браслаўскага павету Тамаш Ваўжэцкі браў слова на гістарычным для Рэчы Паспалітай Чатырохгадовым сойме 1788 - 1792 гадоў роўна 169 разоў.

Параўнаньне не выглядае некарэктным, бо і тады, і на пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагодзьдзя вырашаўся лёс Бацькаўшчыны.

Палымяныя прамовы Ваўжэцкага прысьвячаліся рэформам, што павінны былі пазбавіць дзяржаву залежнасьці ад Расеі.

Дэпутатаў, каго прыемна, а каго - наадварот, уразіла тое, што, ставячы на абмеркаваньне прапанову палепшыць стан сялянаў, браслаўскі пасол у сваім маёнтку ўжо скасаваў паншчыну і даў былым прыгонным волю.

Бліскучы прамоўца і тонкі знаўца права, Тамаш Ваўжэцкі спрычыніўся да прыняцьця Канстытуцыі 3 траўня 1791 году - другой у сьвеце (пасьля Канстытуцыі ЗША) і першай у Эўропе.

Канстытуцыя выводзіла дзяржаву нашых продкаў на шлях прагрэсіўнага разьвіцьця. Абвяшчаліся свабода друку і сумленьня, галоснасьць і незалежнасьць суду, рэлігійная таleranцыя і стварэньне ўраду, які павінен служыць не аднаму стану, а ўсяму грамадзтву. Але час быў страчаны.

Далейшы лёс дзяржавы нашых продкаў ужо трымалі ў сваіх руках замежныя манархі. У Расеі канстытуцыяй і ня пахла. Імпэратрыца Кацярына II лічыла, што "констатуция обошлась бы стране ещё дороже самодержавия".

У 1792-м статысячная расейская армія перайшла мяжу Рэчы Паспалітай. Вынікам інтэрвэнцыі стаўся новы, другі падзел дзяржавы.

Продкі адказалі паўстаньнем, якое ўзначаліў ліцьвін Тадэвуш Касьцюшка.

Пасьля перамогі патрыётаў у Вільні Ваўжэцкі стаў сябрам паўстанцкага ўраду - Найвышэйшай Літоўскай Рады.

Атрымаўшы званьне генэрал-лейтэнанта, ён кіраваў аддзеламі інсургентаў у Жамойці і Курляндыі, а затым пад ціскам шматкроць большых царскіх войскаў вывеў сваіх людзей у ваколіцы Горадні. Калі Касьцюшка трапіў у палон, Ваўжэцкага абралі "найвышэйшым начальнікам" - правадыром паўстаньня ўва ўсёй Рэчы Паспалітай.

Па капітуляцыі Варшавы Тамаш ператварыўся ў вязьня Петрапаўлаўскай фартэцы і аўтара ўспамінаў. Паводле запавету яго пахавалі на радзіме. У 1990-я гады аднымі зь першых знайшлі сьцежку да апошняга прыстанку Ваўжэцкага сябры полацкага гістарычнага клюбу "Вытокі".

Будзеце ў Відзах, наведайце магілу героя, што бараніў незалежнасьць Айчыны і з парлямэнцкай трыбуны, і з зброяю ў руках.

Вітаўт Ермалёнак

## У музеі - госці з замежжа

Як заўсёды летам на Мёршчыну прыязджае шмат гасцей. Многіх з іх цікавіць гісторыя нашага краю, з якой яны могуць пазнаёміцца агледзеўшы змястоўныя экспазіцыіі гістарычнага музея СШ № 3. Дзякуючы Мураўскай Браніславе Пятроўне мы бліжэй даведаліся пра нашага земляка Уладзіміра Скукоўскага, які зараз жыве ў Польшчы ў горадзе Ольштыне.Нарадзіўся ён на Міёршчыне ў в.Траццякі (зараз не існуе). Адукацыю атрымаў у Новапагосцкай школе. У 1956 годзе яго сям'я выехала ў Польшчу. Там У.Скукоўскі скончыў універсітэт, атрымаў вучоную ступень доктара гуманістычных навук. Зараз з'яўляецца буйнейшым спецыялістам па старажытнарускай палеаграфіі і стараславянскай мове. Пад час наведвання музея ён падараваў адну са сваіх манаграфій "Указатель слов и форм в синодальном списке Новгородской первой летописи 13-14 веков", выдадзенай універсітэтам Вармянска-Мазурскім у Ольштыне. Гэта сапраўды ўнікальнае выданне, аналагаў якому няма і ў Расіі.

Уладзімір Скукоўскі праводзіць вялікую грамадскую працу, быў старшынёй таварыства браслаўян ў Ольштыне, збірае матэрыялы па краязнаўству. У час сустрэчы шмат апавядаў аб гісторыіі нашых мясцін. У музеі ён пабываў разам са сваёй жонкай Янінай і сястрой Вальдай.




У чарговы раз наведаў музей былы ўладальнік Павянужак Міхал Пранеўскі разам са сваёй сястрой Зафіей. У Варшаве яны арганізавалі грамадскі камітэт па збору сродкаў на аднаўленне Дзісенскага касцёла. Як і заўсёды пан Міхал і на гэты раз перадаў для музея цікавыя матэрыялы.

Улетку наведаў музей знаўца гісторыі напалеонаўскіх войн з Беластоку Рычард Ёдчык з сынам. Яго бацькі паходзілі з Браслаўшчыны. Рычард аказаў дапамогу ў вызначэнні і датаванні некаторых музейных экспанатаў, а таксама перадаў дыскі з апісаннем парафій касцёлаў Мёршчыны і Браслаўшчыны 18 стагоддзя.

Вучоных са Швецыі,з універсітэта ў Готландзе цікавілі перш за ўсё экспанаты звязаныя з эпохай вікінгаў. Мы змаглі задаволіць іх інтарэсы. У музеі захоўваюцца ўпрыгожэнні вікінгаў 10-11 стст., старажытная сякера, шведская булава і манеты розных перыядаў.

# Таямніцы старых здымкаў

Нядаўна ў Мёрах, пад час разбора старога, драўлянага, яшчэ даваеннага гатэля за абшыўкай другога паверха была знойдзена пачка старых фотаздымкаў. Рабочы Віктар Лагун, перадаў іх спачатку ў рэдакцыю раённай газеты, адкуль яны былі перададзены нам ў гістарычны музей СШ № 3 г. Пачалося карпатлівае вывучэнне надпісаў, бо многія здымкі былі падпісаны невыразным почаркам. Усяго перададзена 196 фатаздымкаў. Частка з іх зроблена ў прафесійных майстэрнях, частка аматарскія, памерам 7 на 6 см. Вось, што пакуль удалося высветліць. Здымкі належалі паручніку жандармерыіі КОП (Корпуса пагранічнай аховы), зроблены яны ў 1936-1939 гг. Надпісы сведчаць, што паручнік скончыў курсы ў Невяркове ў1936 годзе (Валынь - захад Украіны). Далей як і кожнаму вайскоўцу, яму часта прыходзілася змяняць месца службы. Служба праходзіла на тэрыторыях Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Вось толькі некаторы пералік гарадоў: Клецк, Слуцк, Валожын, Бакоцын, Вільна, Гродна, Стоўбцы і г.д. Малады і абаяльны афіцэр карыстаўся павагай ў сяброў і поспехам у жанчын, што бачна па надпісах на адваротным баку. Большасць здымкаў падпісаны так: "Адзінаму ў свеце, найкаханейшаму, самаму каханаму" і гд. Здымкі жанчын падпісаны імёнамі - Ванда, Ірка, Натка, Ядзя, Аля,Фэля, Марыля,Зоня. Малаверагодна, што яны паходзяць з нашых месцаў, на фата пазначаны іншыя гарады. Бачна што афіцэр сам меў уласны фотаапарат. Некаторыя здымкі зроблены на адпачынку на вядомым курорце Друскенікі. Няма сярод астатніх здымкаў яго бацькоў, толькі на некалькіх ёсць яго родзічы - сястры, якія жылі ля Кракава, у Радаме, Жэшуве. Іх імёны - Бася, Рыся,Марыля. Верагодна і наш герой магчыма паходзіць з тых мясцін.

Але самае галоўнае - мы даведаліся імя афіцэра, уладальніка фотаздымкаў, ведаем яго знешні выгляд. Усюды падпісана толькі яго імя - Эдвард. Але зараз мы можам выказаць наступнае меркаванне. Перад самай вайной ён быў накіраваны ў нашыя мясціны, бо здымак напэўна яго сябра-афіцэра, датаваны 22 мая 1939 г. з подпісам Лужкі. Якэк. Менавіта тут была дыслакацыя батальёна КОПа "Малашкі". Калі адбыўся нечаканы напад СССР на Польшчу 17 верасня 1939 г. гэты батальён не маючы магчымасці для супраціву пачаў адступаць у бок латышскай мяжы. Так што наш паручнік Эдвард мог спыніцца ў Мёрах у гэтым будынку гатэля і схаваць тут за абшыўкай здымкі да лепшых часоў. Ён разумеў магчымасць палону і не жадаў каб у рукі ворага трапілі здымкі яго сяброў-афіцэраў, якіх было шмат. З альбома яны былі вырваныя, калі ён паспешліва пакідаў казармы. Некаторыя здымкі з вугалкамі, бачна што іх паспешліва вырывалі.

Нас цікавіць, як склаўся далейшы лёс вайскоўца? Хутчэй за ўсё трагічна. Большасць польскіх пагранічнікаў, якім нават пашчасціла перабрацца ў Латвію, усё роўна калі ў 1940 г. Латвія была акупіравана СССР, трапілі ў савецкі палон і былі растраляны органамі НКУС у Катыні. Калі яму пашчасціла ацалець, ён мог трапіць у армію Андэрса і зноў жа загінуць пад Монтэ-Касіна. А мог ён трапіць і ў Армію Краёву. Але гэта толькі нашы меркаванні. Зараз наш пошук будзе скіраванаы да Галоўнага вайсковага архіву ў Варшаве і ёсць вялікія спадзяванні, што лёс героя здымкаў паручніка Эдварда будзе вядомы, як і яго прозвішча. Шанцы для гэтага ёсць вялікія. Магчыма захаваліся спіскі курсантаў курса КОП а - жандармерыі ў Невяркуве. Малаверагодна што там было шмат такіх імёнаў. Нават калі б ведаць спіс растраляных у савецкіх лагерах, таксама можна вылічыць нашага героя. Нажаль няма шансаў застаць зараз у жывых і герояў здымкаў. Ім зараз за 90. Але магчыма жывуць іх родныя і блізкія, якія пазнаюць старыя здымкі. А лёс нашага героя будзе больш цікавы і не такі трагічны.

# Малы залаты пярсцёнак Мёршчыны

## (маршрут вандроўкі)

*Маршрут вандроўкі распрацавалі, саму вандроўку здзейснілі летам 2007 года краязнаўцы Мёрскай СШ пад кіраўніцтвам Вітаўта Ермалёнка. Перад школьнікамі-краязнаўцамі стаяла задача сістэматызаваць матэрыял па малавядомых сярод турыстаў мясцінах рэгіёна і прапанаваць трасу, якая будзе цікава шырокаму колу аматараў падарожжаў. У групы ўжо быў досвед падобнай працы. У мінулыя гады школьнікі распрацавалі маршруты "Бронзавы пярсцёнак Мёршчыны" і "Срэбраны пярсцёнак Браслаўшчыны". Матэрыялы гэтых распрацовак увайшлі ў кнігу В.Ермалёнка "Очарование Миорского края", якая пабачыла свет у 2007 г. У параўнанні з папярэднімі "залаты пярсцёнак" ахоплівае значна большую тэрыторыю і ўключае шэраг найбольш цікавых аб'ектаў рэгіёна. Сярод іх - Лявонпаль з яго багатай гістарычна-архітэктурнай спадчынай, рэшткі Дрысенскага ўмацаванага лагера часоў вайны 1812 г., вядомае гарадзішча Пруднікі і іншыя. Малым маршрут названы таму, што ў будучым будзе складзены новы, які дазволіць ахапіць адметнасці ўсяго раёна.*

*Першую вандроўку па "Малому залатому пярсцёнку Мёршчыны" здзейсніла група ў складзе: Антон Масленік (мастак, картограф), Аляксандр Янушкевіч (гістарыёграф), Сяргей Закрэўскі (гісторык), Віктар Савуць (фатограф), Уладзімір Касевіч (адказны за харчаванне і рыштунак), Ілля Грэцкі (этнограф), Антон Ермалёнак (археолаг), Вітаўт Ермалёнак (кіраўнік). За тры дні краязнаўцы праехалі 148 км. Ніжэй друкуем першы фрагмент апісання іх вандроўкі.*

**7-00.** Наша невялікая, але загартаваная ў мінулых падарожжах старэйшая група археолага-краязнаўчага гуртка "Арганаўты мінулага" на чале з кіраўніком Ермалёнкам Вітольдам Антонавічам, сабралася ля школы. Апошняя праверка гатоўнасці ровараў і наперад. Першым імчыць наш кіраўнік з чырвоным сцяжком, апошнім - яго намеснік, студэнт 4 курса БДУ, старэйшы гуртковец Ермалёнак Антон.

Шлях выбіраем напрасткі ля будынка аграсэрвіса. Адразу аглядаем месца дзе былі пазіцыі фашыстаў у 1944 г. Стромкі абрыў вышынёй да 10 метраў, унізе справа ад дарогі балота і безназоўнае возера. Зручнае месца для абароны. Вось чаму спатрэбілася мужнасць і гераізм воінаў 9-й гвардзейскай стралковай дывізіі на чале з Я.Вербавым, каб пераадолець гэтыя пазіцыі ворага. Узгадаем радкі з дакументаў, копіі якіх знаходзяцца ў нашым музеі: "*Гвардыі радавы 5-й роты 18-га гвардзейскага стралковага палка Мікалай Нетрабоўскі, ў баі ля вёскі Масеўцы з выхадам кулямётнага разліку са строю ўзяў ручны кулямёт і асабіста знішчыў 15 нямецкіх салдат і афіцэраў. Міхаіл Фукс, гв. малодшы сяржант, камандзір другой кулямётнай роты 4 ліпеня 1944 г., зняважаючы смерць, асабістым прыкладам паднімае байцоў у атаку, агнём свайго станкавага кулямёта падавіў тры кулямёты праціўніка, знішчыў пры гэтым 10 салдат і афіцэраў, чым забяспечыў рух наперад стралковай роты. Авакум Ісакоў - гв. малодшы сяржант у баі пад м.Мёры першым уварваўся з ручным кулямётам у траншэю праціўніка і асабіста знішчыў 6 нямецкіх салдат.*"




**7-15.** Мы ля брацкай магілы ў Масеўцах. Ранішняя цішыня, нават цяжка паверыць, што тут рваліся снарады, гінулі салдаты. Ля самай дарогі - сціплы абеліск, дзе пахаваны 51 воін і партызан, з іх невядомых 16. Ля помніка кветкі, пустазелля амаль няма, нам хапае некалькі хвілін каб прывесці яго ў парадак.

**7-20.** Па асфальтавай дарозе імчым ў напрамку в.Чэрасы. Злева застаюцца вялікія дрэвы і адзінокая хатка, калісь тут была в.Паданы, а ў XVIII-XIX стст. існавала ўніяцкая царква. Менавіта тут пад асфальтам схавалася старая дарога на якой адбыўся ар'ергардны бой рускай арміі ў 1812 годзе. Вось яны радкі з данясення: "*18 ліпеня ў сем гадзін апоўдня 1-ы Бугскі полк есаула Жэкюля атакаваў французаў па дарозе з Чэрасаў на Дзісну. Пад час сутычкі харунжы з атрада Даброў узяў у палон французскага ўлана. Падыйшоўшыя моцныя французскія войскі адцяснілі Бугскі полк да Дзісны*".

Вёска Чэрасы прыгожа выглядае на высокім пагорку па левым беразе Чэраскага возера. (*Пра гісторыю вёскі можна прачытаць у кнізе "Памяць. Мёрскі раён", энцыклапедычных выданнях* - **Рэд.**) Мы спыняемся ля храма, які ўзвышаецца над возерам.

**ЦАРКВА СВЯТОГА МІКАЛАЯ.** Пабудавана ў 1883 г. ў псеўдарускім стылі з чырвонай цэглы, якую выраблялі на мясцовай цагельні. Размешчана на паўвостраве, дзе калісь стаяла ўніяцкая царква. Шматярусная аб'ёмна-прасторавая



кампазіцыя складаецца з шатровай званіцы, бабінца, асноўнага кубападобнага аб'ёму. Пяцігранная апсіда мае бакавыя прыдзелы. Завершана цыбулепадобным купалам на васьміграннным барабане. Яе старадаўнія слупы з чырвонай цэглы ўпрыгожаны чорнымі каменчыкамі ў белай тынкоўцы. Непаўторную прыгажосць яе стварае адлюстраванне ў возеры.

За царкоўнай агароджай размешчаны старадаўнія помнікі. Пад час пошукаў мы знайшлі лыжачку для прычасця канца XVIII - пач. XIX стст. Пад час разведкі на беразе возера Грэцкі Ілля знайшоў крамянёвы разец эпохі мезаліту (VI ст. да н.э.) і вялікі аскепак керамікі XV ст. Знаходка яшчэ раз падцвярджае старажытнасць гэтых мясцін. Але мэта нашага паходу не разведкі, мы павінны перш за ўсё праехаць маршрут.

**8-40.** Па гравійнай дарозе накіроўваемся ў в.Сушкі - родную вёску нашых паэтаў - сына і бацькі Паўла і Пятра Сушко. Тут адбылася цікавая сустрэча з дачкой і сястрой паэтаў Сушко Арлоўскай Тамарай Паўлаўнай, 1934 г. н. Яна паказала нам альбом з цікавымі сямейнымі здымкамі. Мы даведаліся шмат новых фактаў з біяграфіі паэтаў, пасядзелі на валуне, на якім часта адпачывала ўся сям'я Сушко. Мы занатавалі важны факт, што брат Паўла Сушко - Ігнат Міхайлавіч дайшоў да Берліна ў 1945-м, але не занесены як удзельнік вайны ў раёную кнігу "Памяць".

**ПАЭТ ПАВЕЛ СУШКО.** Нарадзіўся 20 лістапада 1909 г. ў вёсцы Сушкі Дзісенскага павета. Вучыўся ў Чэраскай пачатковай школе. Вялікі ўплыў на яго аказаў Флор Манцэвіч. П.Сушко працаваў з бацькамі на гаспадарцы, друкавацца пачаў з 1938 года ў заходне-беларускіх прагрэсіўных газетах. У вершах і нататках ён выступаў супраць нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту. У Віленскай акадэмічнай бібліятэцы захоўваецца рукапісны зборнік яго вершаў падрыхтаваны ў 1939 г. "Адгалоскі". Пасля 17 верасня 1939 г. яго абралі старшынёй Чэраскага сельсавета. Пасля ён удзельнічаў у арганізацыі калгаса"Баявы партызан". У час вайны стаў сувязным атрада "Масква", потым партызанам 4-й Беларускай партызанскай брыгады. Пад псеўданімам Язэп Сяўня пісаў у падпольную газету "Кліч партызана". Яго верш "Марш беларускіх партызан" стаў гімнам народных мсціўцаў. Пасля вайны працягваў друкавацца ў мясцовым, абласным і рэспубліканскім друку. Вершы Паўла Сушко "Сцяжынка", "Ой ішла дзяўчына" былі пакладзены на музыку. У 1965 г. вершы былі надрукаваны ў зборніку "Сцягі і паходні". Памёр паэт ў 1974 годзе, пахаваны на могілках у Чэрасах.

**ПАЭТ ПЯТРО СУШКО.** Нарадзіўся ў в.Сушкі ў 1937 годзе. Паэтычная творчасць бацькі аказала непасрэдны ўплыў на выбар жыццёвага шляху Пятра. У 1953 г. ён скончыў Чэраскую сямігодку, у 1956-м Мёрскую сярэднюю школу. Друкавацца ён пачаў з 1954 г. вершам "Цёплы дождж" у раённай газеце. Пасля закончэння ў 1966 годзе фаультэта журналістыкі БДУ П.Сушко працаваў карэспандэнтам у раённай газеце, "Віцебскім рабочым", "Звяздзе", часопісу "Вожык"і інш. На працягу 1980-1987 гг. адказны сакратар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", старэйшы рэдактар у выдавецтве "Полымя". Пятро Сушко выдаў шмат зборнікаў паэзіі. Вядомы яго кнігі сатырычных вершаў "Ганарлівы сучок", "Восці напагатоў", "Парнасская кузня". Наш зямляк першым у беларускай літаратуры напісаў вянок сатырычных санетаў "Паэтычнае веча". Вялікай лірычнасцю вылучаюцца яго кнігі вершаў "Бігосаўскі паром", "Пратокі". Для дзяцей паэт выдаў кнігі "Чмялёва гушчалка", "Вясёлы бай" і інш. Памёр у 1997 годзе.

На ўспамін мы сфатаграфаваліся з Тамарай Паўлаўнай і зноў у дарогу. Наведалі магілу Паўла Сушко на старых чэраскіх могілках.

**9-30.** Каб сэканоміць час паехалі палявой сцяжынкай ў напрамку вёскі Ліпаўка. Для веласіпедыста дарога здатная, але вясной і восенню праблематычна на ёй праехаць. А вось падарожнікі на аўтамабілі лепш ізноў вярнуцца ў Чэрасы і праехаць лішніх пару кіламетраў, але па асфальце. Ля в.Ліпаўка захаваліся лапікі старой брукаванай дарогі на Дзісну. Назва вёскі паходзіць ад дрэваў ліпаў, якія захаваліся да гэтай пары. Незабыўнае ўражанне на падарожніка аказваюць краявіды маленькага Ліпаўскага возера.

На асфальтаваную дарогу выязджаем ля в.Грэцкая. Назва паходзіць ад прозвішча Грэцкі. Так называлі ў нашай мясцовасці праваслаўных і ўніятаў. Роўная і гладкая дарога дазваляе нам павялічыць тэмп. Яна звязвае праз Браслаў Літву і Латвію з Полацкам, Віцебскам, далей з Расіяй. Па добрай дарозе непрыкметна даехалі да вёскі Старыя Крукі. За ёй пачынаецца балота "Ельня". У гады апошняй вайны тут была партызанская зона. Ля дарогі партызаны брыгады "Кастрычнік" разграмілі ў 1944 г. нямецкі абоз, які рухаўся на Дзісну. У мінулыя гады гурткоўцы лакалізавалі месца бою, знойдзеныя ваеныя рэліквіі змешчаны ў запасныя фонды нашага музея. Каб пазбавіць партызан падтрымкі насельніцтва, ў наваколлі было спалена 87 вёсак, жыхары былі вывезены ў Германію. Таму і школа дзе працаваў Ф.Д.Манцэвіч не захавалася. Але мы адшукалі цудам ацалеўшыя карты і глобус, якімі карыстаўся працуючы настаўнікам геаграфіі наш славуты зямляк.

**ФЛОР ДАНАТАВІЧ МАНЦЭВІЧ.** (*Флору Манцэвічу прысвечана шмат публікацый* - **Рэд.**)

**11-10.** Працяг шляху. Па асфальце, мінаючы в.Старыя Крукі дарога рэзка ідзе ўніз на мост праз раку Волту. Менавіта гэта рака доўгія стагоддзі была мяжой паміж балцкімі плямёнамі і славянамі-крывічамі. Направа ад дарогі змешаны лес за якім хаваецца знакамітае балота гідралагічны заказнік "Ельня "

**БАЛОТА "ЕЛЬНЯ".** Ельня - верхавое балота размешчана ў асноўным ў вадазборы ракі Волта, часткова ракі Бярэжжа і

Язьвінкі. На балоце знаходзіцца больш 70 азёраў. Буйнейшыя з іх: Доўгае, Белае, Бярэжжа, Яжгіня, Чорнае. Агульная плошча балота складае каля 20 тысяч гектараў. Глыбіня торфу да 8,5 метраў, сапрапелю - 1,5 метры. Частка балота парасла бярэзнікамі, ёсць хваёвыя дрэвы. Флора балота надзвычай багатая. Некаторыя з іх вельмі рэдкія, занесеныя ў Чырвоную кнігу Беларусі: карлікавая бяроза, марошка, чубатка пустая, гладыш шыракалістны, мядзведкавая цыбуля, шпажнік і інш. Асабліва багата балота журавінамі. Тут можна сустрэць і рэдкіх прадстаўнікоў фаўны: шэрага жураўля, кулона, сяўца залацістага, гагару чорнаваллёваю, дзербніка. Балота Ельня па сваёй унікальнасці з'яўляецца адзіным падобнага тыпу ў Еўропе. Таму яшчэ ў 1968 г., каб зберагчы ў натуральным стане балотны масіў, быў створаны гідралагічны заказнік.

Кароткі прыпынак ля вёскі Перастова, якая размешчана побач з паваротам на Дрыгучы. На карце Яраслава Мудрага на мяжы Полацкай зямлі змешчана паселішча з назвай Пераслаў. Па меркаванню вучоных паселішча павінна быць у нашым рэгіёне, але дзе? У межах нашага падарожжа размешчаны вёскі Перастова і Перастоўка. Таму мы спыніліся і правялі кароткую разведку, якая, дарэчы, аказалася безвыніковай. Сустрэлі толькі кераміку XVIII - XIX стст. Большасць палёў засеяна і гэта акалічнасць перашкаджае нашаму пошуку. На дарозе на Дрыгучы зварочваем на Масцішча, вёска дзе нарадзіўся "беларускі цар" Кузьма Крук. Яго хата не захавалася, але засталіся вялікія дрэвы. Добра было б ушанаваць намяць аб нашым земляку памятным знакам.

**КРУК КУЗЬМА -"БЕЛАРУСКІ ЦАР".** Ад в.Масцішча да в.Дрыгучы 2 км па добрай дарозе. У слоўніку В.Жучкевіча назва вёскі падаецца ад слова "дрыгва.", але ж яна размешчана на ўзвышшы .Па меркаванню гісторыка М.Ермаловіча - назва Дрыгучы паходзіць ад плямёнаў дрыгавічоў, якая засяляліся на поўдзень па рацэ Заходняя Дзвіна. Спыняемся ля помніка воінам і землякам, удакладняем спісы загінуўшых.

Далей даследуем сядзібу і парк паноў Каранеўскіх, або Каржанеўскіх. Апошняя з іх - Зофія Дублясова пабудавала ў 1926 годзе сядзібу. Гэта вялікі драўляны будынак з чатырохскатным дахам. Сем вялікіх пакояў з двумя калідорамі і верандай. У сядзібе раней размяшчалася школа, зараз жылы дом, але многія кватэры ўжо пустуюць і сядзіба прыходзіць у заняпад. Сфатаграфавалі выстаўленае акно веранды 20-х гадоў XX ст. Менавіта такія стрэльчатыя вокны былі моднымі ў большасці панскіх сядзіб Мёршчыны. Не разбураны яшчэ і печы з прыгожай каляровай кафлі. Але вялікая бібліятэка, архіў, карціны і старадаўняя мэбля былі знішчаны пасля 1939 года. Захаваліся рэшткі парку: векавыя ліпы, дубы, прасочваюцца дарожкі парку па ўсяму перыметру. У мінулым паміж дрэў былі альтанкі, ля дома кветнікі, за прысадамі вялікі сад. У парку была ўсталявана вышка з якой пані любіла ў бінокаль аглядаць наваколле Заходняй Дзвіны. Муж Зофіі Каржанеўскай пахаваны на старых могілках у Рыжмонтах. У 2004 г. мы абследвалі гэтыя могілкі і знайшлі там пахаванні трох пакаленняў Каржанеўскіх.

Наведалі музей ў Дрыгуцкай базавай школе. Экспазіцыя складаецца з двух раздзелаў - гістарычнага і этнаграфічнага. У гістарычным раздзеле прадстаўлена кераміка XVI - XIX стст., знойдзеная ў наваколлі Дрыгучаў, ваенныя рэліквіі, школьныя прыналежнасці пасляваенных гадоў і г.д. У этнаграфічным - прадметы ткацтва, ганчарства, апрацоўкі зямлі. Кіраўнік музея - настаўнік гісторыі Цітовіч Уладзімір Мікалаевіч.

Найбольш цікавы суразмоўца ў Дрыгучах, былы бібліятэкар Сінкевіч Анастасія Васільеўна. Ад яе мы шмат даведаліся звестак па мясцовай гісторыі. Асабліва нас зацікавіла паданне пра паходжанне назвы вёскі Карандашы. Да гэтай пары яно супярэчыла беларускім назвам вёсак Мёршчыны. Па-беларуску *карандаш* - аловак.

**ПАДАННЕ АБ ПАХОДЖАННІ НАЗВЫ ВЁСКІ КАРАНДАШЫ.** Там, дзе зараз вёска - былі благія, неўрадлівыя землі: гліна, камяні, пясок. Крывавым потам абліваліся, апрацоўваючы гэтыя землі сяляне. А ўраджаю добрага ўсё роўна ніколі не было. Таму калі паны накіроўвалі сялян туды працаваць за якую-небудзь правіну, то іх называлі "караны душы". Скарочаная назва гэтага выразу і ператварылася ў Карандашы. Аб гэтым апавядаў Сінкевіч А.В. яе бацька, Маляўка Васіль Фёдаравіч (1894-1975). Ён ваяваў у першай сусветнай вайне, у перыяд грамадзянскай быў кавалерыстам коннай арміі пад камандаваннем Варашылава. Працаваў першым сакратаром Узмёнскага сельсавета, у вайну вывезены ў Германію. Яго брат, Маляўка Юльян Фёдаравіч, быў удзельнікам першай сусветнай вайны, актыўна ўстанаўліваў савецкую ўладу на Дзісеншчыне. Абраны павятовым камісарам, загінуў пад час антысавецкага паўстання 1919 года. Пахаваны на плошчы ў Дзісне,але ў 1941 г. немцы прымусілі яго прах перазахаваць. Анастасія Васільеўна перадала нам у музей здымак Юльяна Маляўкі разам з яе бацькам. Анастасія Васільеўна абяцала перадаць і цікавыя копіі дакументаў пачатку XX ст.

Пачаставаўшы смачнымі блінамі з гарбатай, яна накіравала з намі двух сваіх унучак Аню і Насцю, каб мы хутчэй знайшлі на дрыгуцкіх могілках магілу Кузьмы Крука. Ён не пакінуў пасля сябе сям'і, але нашчадкі добра даглядаюць магілу. Ля помніка красуюць жывыя кветкі. Па сцяжынцы накіроўваемся да старых могілак. Па ўспамінах старажыхароў тут раней праходзіла старая дарога на Дзісну, якая была абсаджана дубамі. Зараз дрэвы-волаты захаваліся толькі ў асобных месцах. 100 год назад знаходзілася тут вёска Дрыгучкі, дзе былі карчма і млын. На могілках мы даследавалі драўляную напаўразбураную капліцу, якая была пабудавана без адзінага цвіка ў XIX ст., і старажытныя пахаванні, большасць з іх адносіцца да канца XIX - пач. XX ст.

Далей наш шлях вядзе па палявой дарозе ў в.Панізова. У пачатку XX ст тут існаваў маёнтак Каржанеўскага. Пражывала 11 мужчын і 9 жанчын. У 1931 г. маёнткам валодаў Вінцэнт Ясінскі, а колькасць жыхароў вырасла да 52 чалавек. Зараз ад паселішча застаўся адзін дом, які выкарыстоўваецца як лецішча. Вывучэнне адметнасці яго пабудовы паказала, што гэты будынак частка былога сядзібнага дома. Разведка праведзеная намі на агародзе прынесла першае адкрыццё. Акрамя керамікі і кафлі XVI ст. мы знайшлі некалькі ляпных кавалкаў глінянага посуду, што паказвае на існаванне паселішча жалезнага веку пач. 1 тыс. н.э.

**(працяг будзе)**

# Таямнічыя знакі з гарадзішча Маскавічы

Пра тое, што на гарадзішчы Маскавічы знойдзена цэлая калекцыя костак з рунічнымі надпісамі, ведаюць многія. Пра гэта шмат пісалася ў прэсе. У 2002 годзе былі апублікаваны вынікі расшыфроўкі надпісаў. Прыклады прачытанняў мы змяшчалі ў адным з нумароў "Павета". Менш вядомы той факт, што экспедыцыямі Людмілы Дучыц на гарадзішчы Маскавічы знойдзены праселкі (грузікі для верацёнаў) са знакамі, якія падобны на літары нейкага невядомага алфавіту. Падобныя знакі былі выяўлены археолагамі на рэчах з Менску, Ваўкавыску, Горадні, Ерсіке, Ноўгарадзе. Многія спецыялісты выказваюць меркаванне, што да кірыліцы нашы продкі славяне ўжо ведалі пісьмо - "*чрътами и резами чьтеху и гадааху*" (пры дапамозе "чэртаў" і "рэзаў" чыталі і гадалі) - так пісаў у канцы IX ст. балгарскі пісьменнік Храбр. Не аднойчы рабіліся спробы рэканструяваць славянскі дакірылічны алфавіт. Былі асобныя публікацыі і нават кнігі, прысвечаныя "славянскім рунам", пачынаючы з XVIII ст. Цікава, што ажыятаж вакол гэтай тэмы справакаваў цэлы шэраг фальсіфікацый. Тым не менш, сучаснымі даследчыкамі назапашана даволі многа прыкладаў непадробленых знакавых надпісаў на славянскіх абшарах. Маскавіцкія знаходкі - у іх шэрагу. Людміла Дучыц выпучыла сярод знакаў 43 віды (што дарэчы адпавядае колькасці літар кірыліцы). Гэтыя знакі прадстаўлены на малюнку ніжэй у зводнай табліцы. Сярод знакаў значная частка нагадвае скандынаўскія руны. Ці будуць калі-небудзь расшыфраваныя таямнічыя знакі з-пад Браслава? Невядома. Выказваецца меркаванне, што да ўвядзення кірыліцы адзінай сістэмы пісьма ў славян не існавала, а былі розныя лакальныя алфавіты, расшыфраваць якія значна цяжэй.







| Нумар | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Знак | Σ | ! | ᶜ | ˉ | [ | ˈ | + | † | Ψ | A | У | ↑ |  7 | Ψ | ˊ | / | \ | N | E | ◁ |
| Колькасць | 1 | 3 | 1 | 1 | 1 | 2 | 3 | 1 | 1 | 1 | 1 | 7 | 1 | 1 | 5 | 4 | 5 | 1 | 1 | 2 |

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 |
| ↑ | ^ | ᛉ | X | ✗ | ⌐ | Y | Y | ☆ | V | ♁ | ⌣ | H | ↗ | # | ( ) | ✗ | ↓ | ʕ | ∧ | ↑ | O | ◇ |
| 4 | 1 | 1 | 3 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 | 3 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 |

















*(Па матэрыялах артыкула Э.Зайкоўскага "Калі на Беларусі з'явілася пісьмо?". Спадчына. № 2, 1992.)*

# Аўца - ідал Маскавічаў

У поле майго зроку трапіла дзівосная кніжка аўтара з вёскі Неманіца, што на Браслаўшчыне, Міхася Ржавуцкага "Беларуская гліняная цацка" (Мінск, "Полымя", 1991), на 13-й старонцы якой убачыў здымак, а пад ім подпіс: "Выява авечкі, знаходка з паселішча Маскавічы Браслаўскага раёна. IX ст.", на 25-й ст. таксама знаходка з гэтага рэгіёна, на гэты раз - "Выява птушкі; цацка з раскопак Друі. XVIII ст.".

Мяне найбольш здзівіла гістарычная рэч з вёскі Маскавічы, бо і што гаварыць, подых сівой мінуўшчыны, калі так можна сказаць, далёкае дзяцінства нашай культуры заўсёды чаруе, хвалюе, выклікае моцную цікаўнасць і захапленне.

У 5-м томе "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (стар. 86) за подпісам Людмілы Дучыц расказваецца, што Маскавічы, Маскаўцы, гарадзішча археалагічных культур днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі XI - XIII стагоддзяў каля вёскі Маскавічы Браслаўскага раёна. Напрыканцы пра гарадзішча Маскавічы (Маскаўцы) напісана: "Выяўлены пасад, які

з цягам часу апынуўся пад вадой возера. Знойдзены прылады працы, конская збруя і рыштунак конніка, рыбалоўныя снасці, вырабы з косці, жаночыя ўпрыгажэнні, 4 энкалпіёны (металічныя двухстворкавыя крыжы-складнікі - М.М.), больш за 100 абломкаў касцей жывёл з надпісамі і малюнкамі".

На гэтай жа старонцы дадзены 2 здымкі з надпісам унізе: "Косці жывёл з малюнкамі з гарадзішча Маскавічы". На мой погляд, яны гавораць аб асаблівай шчырасці, любові маскаўчан да выяўленчага мастацтва, нават аб дасягненні некаторых з іх у ім. Канечне, каляровы, на добрай паперы фотаальбом аб гэтым упрыгожыў бы і Браслаўшчыну, і ў цэлым нашу краіну.

Энцыклапедыя "Археалогія і нумізматыка Беларусі" (1993 года выдання) падкрэслівае: "Больш за 100 абломкаў касцей з надпісамі знойдзена на гарадзішчы Маскавічы Браслаўскага раёна. Знакі падзяляюцца на асобныя літары, лігатуры, ідэаграмы, некаторыя маюць сувязь са скандынаўскім рунічным пісьмом".

Гэтая ж энцыклапедыя дапаўняе нашы веды аб надпісах на костках: "Маскавіцкія надпісы характэрны для скандынаўскага бытавога пісьма і ўяўляюць сабой дэградзіраванае пісьмо, навыкі якога страчаны яго носьбітамі".

А мы вяртаемся да выявы далёкай нашай праавечкі. Нам застаецца толькі шкадаваць аб тым часе, што раней амаль што кожная беларуская сям'я ў вёсцы мела і авец, і барана. Пасля Вялікай Айчыннай вайны гэта свойская жывёла чамусьці няўхільна пачала скарачацца, сёння ёсць цэлыя вёскі, дзе яе няма. І няшчасныя дзеткі ў іх ведаюць пра аўцу толькі па ўспамінах бацькоў ці па малюнках у кнігах.

**Гліняныя фігуркі з гарадзішча Маскавічы (Л.Дучыц. Браслаўскае Паазер'е ў IX-XIV стст. Мінск. 1991)**

Як мне здаецца, выява авечкі ў Маскавічах здорава прайграе жывапісу на костках. Але, што і казаць, гэтая скульптура-ідал таксама выклікае замілаванне, захапленне і ўдзячнасць, бо яны, нашы продкі, захавалі ў імгненнях прасторы і часу свае светаадчуванні.

Як піша Міхась Ржавуцкі ў сваёй кнізе (стар. 16): "У старажытнасці лічылася: ляпіць выявы жывёл - чакай прыплод, птушак - прыход цёплых дзён, лялек у выглядзе жаночага вобраза - прадоўжыш свой род".

Праз абзац аўтар працягвае: "Першабытная "цацка" прадстаўляла сабой своеасаблівых ідалаў. Пакланяючыся ім, чалавек як бы выказваў свае жаданні і волю. Фігуркі гліняных істот з-за сваёй кампактнасці і даступнасці матэрыялу атрымалі даволі шырокае распаўсюджванне ў плямёнаў, што насялялі тэрыторыю тагачаснай Беларусі".

Каб даведацца болей пра гісторыю нашых цацак, я спецыяльна прагледзеў у "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" усе матэрыялы на літару "ц", але выдаўцы абышлі яе сваёй увагай, павагай, пашанай гэты прадмет, прызначаны для падняцця нашага духу, весялосці, гульні, аздобы, упрыгажэння, прыемнасці.

Як бачна, былыя насельнікі гарадзішча Маскаўцы (Маскавічы) лепш за нашых энцыклапедыстаў прыдавалі значэнню цацкі, таму, мабыць, і ўвайшлі, і засталіся ў нашай удзячнай памяці назаўсёды!

**Міхась Маліноўскі,** ***правадзейны член Геаграфічнага таварыства, г.Баранавічы.***

**Кастусь Шыдлоўскі**

# ВІДЗСКІЯ МЛЫНЫ

Быў час, калі млыны адыгрывалі значную ролю ў эканамічным жыцці мястэчак, маёнткаў. Яны прыносілі гаспадаркам істотныя грашовыя паступленні. Млыны былі выгаднымі і для вяскоўцаў: памол рабіўся хутка і якасна. Невялікія жорны, якія меліся ў кожнай гаспадарцы, адыгрывалі дадатковую ролю. Паводле архіўных матэрыялаў канца XVIII ст., на тэрыторыі сучаснай Браслаўшчыны было каля 25 млыноў, у асноўных вадзяных, а таксама некалькі ветракоў. Млыны ў гэты перыяд былі драўляныя. У XIX ст. сталі будаваць млыны з каменю, цэглы. Напрыканцы гэтага стагоддзя, але ў асноўным у пачатку XX ст., млыны аснашчаліся паравымі ўстаноўкамі. Яны былі найбольш эфектыўнымі, працавалі ўвесь час. Энергетычны патэнцыял рэк Браслаўшчыны быў невялікі, часта яго хапала на працу млына пры паводках і навадненнях. Ветракі таксама працавалі ў абмежаваны перыяд. У палове XX ст. многія млыны былі пераведзены на электрычную цягу, але неўзабаве пачаўся заняпад млыноў. Муку ў рэгіён сталі завозіць з вялікіх камбінатаў.

Відзы былі адным з буйнейшых мястэчак Браслаўшчыны. Асобныя яго часткі мелі розных гаспадароў, якія неаднойчы мяняліся. Асноўным заняткам большасці местачкоўцаў была сельская гаспадарка, аднак у самім мястэчку гістарычныя крыніцы да пачатку XIX ст. млыноў не згадваюць. Іх было некалькі ў бліжэйшым наваколлі. Напрыклад, у апісанні Відзскай парафіі згадваюцца вадзянікі ў Фабіянполлі, Лісішках, Янове, гаспадарцы канонікаў лютэранскіх (хутчэй за ўсё, у іх маёнтку Рэгуляры, у 2-х кіламетрах па пастаўскай дарозе). Каля мястэчка знаходзіліся і 3 ветракі - паўночней Відзаў, у Грынкаўшчыне і на віленскім гасцінцы. З 90-х г. XVIII ст. вядомы план Відзаў, але на ім які-небудзь млын у мястэчку не пазначаны.

Неўзабаве быў збудаваны млын на р.Маруга ў межах паселішча. Ён згаданы сярод страт, нанесеных мястэчку вайной 1812 г. Звесткі аб драўляным вадзяніку паловы XIX ст. дае выданне

"Материалы для статистики Ковенскай губернии". У брашуры, прысвечанай Відзам (1898 г.), мясцовы настаўнік М.Посах піша: "*В городе имеется одна небольшая водяная мельница, работает только в половодье, и 5 ветряных*". Млын, аб якім піша Посах, можна ўбачыць на нямецкай паштоўцы 1916 г. Выразна бачны мураваная падмуроўка будынка і пляца побач, аднапавярховы зруб асноўнага будынка, плаціна з вадзяным колам. Млын знаходзіўся ў занядбаным выглядзе. Звяртае ўвагу тое, што рэчка мелкаводная - у гэтым асноўная прычына занядбання млына. Дзе знаходзіўся стары відзаўскі млын? Знайдзіце ў Відзах завулак млыновы, які захаваў старую назву, прайдзіце па ім да рэчкі Маругі, што пасля меліярацыі ледзь струменіцца між чароту і аеру - вось тут і быў першы відзскі млын.



**Стары Відзскі млын. Нямецкая паштоўка.1916 г.**

Што да ветракоў, то старыя людзі ўспамінаюць, што ў Відзаўскім наваколлі былі распаўсюджаны невялікія млыны, разлічаныя ў асноўным на патрэбы адной ці некалькіх гаспадарак. Апошні такі млын можна было яшчэ ў 80-я гг. XX ст. убачыць у в.Бучаны, пры дарозе Відзы - Казяны. Былі планы перанесці гэты вятрак у Браслаў ці ў музей народнай архітэктуры і побыту "Менка", але гаспадар папросту разабраў яго. Напрыканцы XX ст. падобны млын збудаваў гаспадар Рамуальд Пяткун у вёсцы Пагошча. Гаспадар ветрака неўзабаве памёр, але вятрак да гэтай пары можна ўбачыць на ўскраіне вёскі.



**Вятрак у в.Бучаны.** ***Здымак Яўгена Казюлі. 1980-я гады***

Вернемся, аднак, у Відзы. У пачатку XX ст. на р.Маруга ніжэй старога быў узведзены новы млын. Ён размяшчаўся паміж двума мастамі, праз якія пралягалі гасцінцы на Гадуцішкі і Паставы. Будынак, узведзены з чырвонай цэглы, да якога прыбудаваны двухпавярховы зруб, можна ўбачыць і цяпер. Ён не ўнесены ў спіс помнікаў гісторыі і культуры, але адразу звяртае ўвагу аматараў старасветчыны. Асноўны аб'ект млына мае два паверхі з вялікімі вокнамі і дзвярыма, і высокі вальмавы дах з дадатковымі памяшканнямі. На фасадзе, звернутым да дарогі, вылучаецца надбудова пад'ёмнага механізма.

У Каўнаскім архіве захавалася справа пач.XX ст. аб прыстасаванні пад гэты млын мураванай гаспадарчай пабудовы, якая належала мешчаніну Конану Жалніну. На жаль, гістарычны матэрыял у справе адсутнічае. Захаваліся малюнкі старога будынка, план будучых памяшканняў млына.

Не ўказана прозвішча гаспадара млына. Старыя людзі згадваюць, што гэта быў відзскі яўрэй. Вады рачулкі на абодва млыны не хапала, таму гаспадары млыноў канфліктавалі. У лепшай сітуацыі быў стары млын, размешчаны вышэй, але да новага было зручней даехаць і абсталяванне ён меў навейшае, а значыць, лепшае. Апошняя акалічнасць дазваляла гаспадару новага млына браць меншую плату з сялян.

Пасля першай сусветнай вайны абодва млыны перажылі рэканструкцыю: на іх былі пастаўлены паравыя машыны. Архіўныя матэрыялы захавалі прозвішчы іх уладальнікаў: Гутман Іхімчык, Пінхус Мурмішскі. Абодва млыны ў архіўных дакументах прывязаны да вуліцы Старой.

Савецкая ўлада нацыяналізавала відзскія млыны. Новы млын пры дарозе працаваў да 50 - 60-х гадоў XX ст., абсталяванне было пераведзена на электрычную цягу. Пасля закрыцця млына асноўны будынак выкарыстоўваўся пад склад, у драўляным месцілася пэўны час чахралка (першы паверх) і бібліятэка (другі паверх).



***Чарцёж прыстасавання пабудовы пад млын.***

У другой палове 90-х гг. XX ст. млын адкупіла сям'я Сайкоўскіх. Млын запрацаваў па прамому прызначэнню. Яго паслугамі карысталіся пераважна невялікія індывідуальныя гаспадаркі. Некалькі гадоў абсталяванне працавала даволі інтэнсіўна. Штодня каля млына грамадзіліся фурманкі, завіхаліся людзі. Цяпер тут зноў цішыня - не тая эканамічная кан'юнктура. Што станецца з будынкам у будучым - невядома. Можа быць, знойдзецца энергічны прадпрымальнік і ў Відзах з'явіцца гатэльчык з кавярняй "Стары млын".



**Новы Відзскі млын.**
***Фота Рамана Фарбера. 1980-я гады***

# Калекцыя сумак з чароту з фондаў Браслаўскага аб'яднання музеяў

Элеанора Зінкевіч

Сярод рамёстваў адным з самых старажытных з'яўляецца пляценне. На Браслаўшчыне ў якасці сыравіны для пляцення выкрыстоўваліся раслінныя валокны лёну, канаплі, крапівы, ветак лазы, арэшніку, лыка, кары лазы, ліпы, бярозы, сасновай лучыны, яловых і сасновых каранёў, саломкі культурных і дзікарастучых злакаў, чароту, сітніку.

У энцыклапедыі "Прырода Беларусі" у апісанні такіх раслін, як чарот і сітнік узгадваецца іх выкарыстанне для пляцення, але не узгадваецца дакладна якія вырабы з яе рабілі. У энцыклапедычным выданні "Этнаграфія Беларусі" я не сутрэла ў артыкуле аб пляценні інфармацыю аб вырабах з чароту на Беларусі, але ў фондах Браслаўскага музейнага аб'яднання існуе калекцыя вырабаў, тканых і плеценых з чароту. Магчыма гэты накірунак пляцення больш позні, развіваўся лакальна і сустракаўся сярод насельнікаў прыбрэжных частак.

На Браслаўшчыне зараснікі чароту можна сустрэць на мелкаводдзі азёраў і рэк. У вільготных месцах, па балоце, заліўных лугах густымі пукамі расце нявысокая трава - сітнік . Сярод мясцовага насельніцтва для раслін, якія маюць порыстую структуру сіта, існуе агульная назва - сіта. Па звесткам мясцовых жыхароў нарыхтоўваюць яе да Яна. У гэты час сцяблы вельмі лёгка выдзёргваюцца з прыкаранёвых лістоў. Сцяблы у гэты час маюць роўны зялёны колер, які можна захаваць пры сушэнні травы пад навесам.







У Маладзечанскім архіве захаваўся ліст 1923 года Дрысвятскага ксяндза Міхайлоўскага да старосты Браслаўскага павета., у якім ён піша пра утварэнне секцый хатніх промыслаў ў Дрысвятах ў 1912 г., і пра магчымасць стварэння падобных ў Браславе, пра неабходнасць вырошчваць плантацыі лазы на мясцовых пясчаных грунтах. Тады ён звярнуў увагу: "*... Маецца таксама вялікая колькасць азёраў, а ў іх сіта. Гэта расліна па няпрашні дзень марнуецца непрадукцыйна, а магла б быць скарыстана для вырабу кошыкаў...*"

Пад сітой Міхайлоўскі меў на ўвазе чарот, які расце ў прыбрэжнай частцы. Чарот для пляцення кошыкаў, напэўна, так і не пачаў выкарыстоўвацца, але ён выкарыстоўваўся ў саматужнай вытворчасці для пляцення і ткацтва сумак, палавікоў, адзеннія для рыбакоў і пастухоў. Аб чым сведчыць невялікая калекцыя гэтых вырабаў у фондах Браслаўскага музейнага аб'яднання, а таксама успаміны мясцовых жыхароў .

Станкевіч Святлана Браніславаўна, 1932 г.н. каталічка з г. Браслава, нарадзілася у вёсцы Струста. Яна узгадвае, што ў в.Струста пасля вайны "старухі" плялі з сіты "кашолкі" (сумкі з травы), маты для уцяплення сцен і дзвярэй ў доме, ткалі палавікі. Звязана гэта было з тым, што ў гэты час не хапала валакна,нітак,тканіны і людзі стараліся болей выкарыстоўваць раслінныя матэрыялы. З сіты плялі доўгія пляцёнкі - "касічкі"з трох, ці чатырох саломін з роўным краем, якія пасля сшывалі па спіралі, як саламяныя капялюшы (верхнія рады пляцёнак пашываліся на ніжнія і прышываліся). Такая сумка мела круглую форму і называлася "кашолка". Ручкі мелі дзве, якія пляліся з такіх жа касічак. Вырабы з сіты былі мягкія і крэпкія, доўга насіліся. Палавікі з сіты ляжалі ў хаце некалькі гадоў. Калі яны станавіліся бруднымі - іх насілі на возера, мылі шчоткамі з свіной шчаціны (такімі шчоткамі яшчэ чысцілі коней). У іх дома сумкі плялі зімой, а траву нарыхтоўвалі летам, захоўвалі яе на гарышчы.

Угарэнка Ганна Казіміраўна 1918 г.н., каталічка з в.Боханы, нарадзілась у вёсцы Жэймяны ( 4 км. ад Боханаў). Яна расказвала , што ў 1953 годзе

сама пляла сумкі з сіты і вазіла іх на ровары за 30 км ад дому на продаж (па 2 - 3 рублі) ў Краславу. Там на заробленыя грошы набывала лекі для хворага мужа, цукар, макароны. Навучылася плясці ад мамы. Плялі спачатку ленты ў "ёлачку" ці ў "клетачку", абстуквалі іх малаточкам і пасля сшывалі дратвой. Ручкі таксама плялі з пляцёнак. Сумкі называліся "корфы" і былі прыгожага зялёнага колеру. Сіту рвалі да свята Яна ( каб не было на ёй мяцёлак), ці адразу з вясны, як толькі яна пачне расці з вады (у гэты час яна мягкая). Выдзёргвалі траву рукамі, некалькі дзён яна магла ляжаць на беразе, каб падвяліца на сонцы і потым з яе можна плясці.

Калекцыя вырабаў з чароту ў фондах Браслаўскага музейнага аб'яднання налічвае 16 адзінак. З іх: 12 сумак, куртка этнаграфічная, пашытая з кавалкаў палатна, затканага чаротам, кавалак пляцёнкі, знойдзены на гарышчы закінутай хаты, і вырабы зробленые майстрамі клуба "Ля возера"(ланці дэкаратыўныя, сурвэтка).









Я у сваёй працы хачу пазнаёміць толькі з калекцыяй сумак, як прыклад выкарыстання такога матэрыялу, як чарот у накірунку пляцення, з тэхналогіямі вырабу сумак на прыкладзе дадзенай калекцыі.

Усе сумкі сплецены з чароту. Шырыня ад 20см да 40 см., высата ад 20 да 30 см. Дзесяць сумак з дванаццаці сшыты з плеценых стужак. Найчасцей гэта пляцёнка "рагожка" ў "клетачку" з 8, 10, 20 , 24 чароцін, але можа быць пляцёнка "рагожка" ў "елачку" з 7, 8, 18 чароцін, можа быць "зубатка". Асноўпае палатно сумкі сшываецца ільняной ніткай з падоўжаных кавалкаў стужак метадам "ўстык", ці "ўпахлёст". Адна сумка сшытая па спіралі. Ёсць у музейнай калекцыі сумка, якая магчыма была сплецена на драўлянай калодке. Цікавасць прадстаўляе сумка, якая знаходзіцца ў экспазіцыі МТК. Пра тэхналогію яе вырабу ад мясцовага насельніцтва даведацца не ўдалося, але ёсць схемы тэхналогій ў кнізе Казіміра Машынскага "Народная культура славян", том 1, стар. 333.

---

*Нашы землякі*

**Іваноў Іван Аксенцьевіч** (нарадзіўся 25.11.1910 г., Відзы, Ковенскай губерніі) - адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Вілейскай вобласці ў Айчынную вайну. З сялян. Член КПСС з 1935 года. За рэвалюцыйную дзейнасць у Заходняй Беларусі польскімі ўладамі зняволены ў турму. У 1939 - 1941 гг. на савецкай рабоце ў Відзах. У партызанах з чэрвеня 1942 года - камандзір групы, узвода, камісар атрада. З верасня 1943 года - камандзір партызанскай брыгады імя Л.М.Даватара Вілейскай вобласці. Пасля вайны на савецкай і гаспадарчай рабоце. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга, медалямі. Жыве ў Вільнюсе.

Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т.V. Мінск. 1972.,с.36

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)